№9 (172)

# ПАХОДНЯ

Грамадска-палітычная газета

Ліпень 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Из двух миллиардов от России один потратили в рекордные сроки.**

По итогам июня золотовалютные резервы Беларуси в международном определении увеличились на 1 млрд. долларов США.

И, по предварительным данным, на 1 июля составили 6,4 млрд. долларов, сообщает пресс-служба Нацбанка.

Увеличению золотовалютных резервов способствовало поступление кредита российского банка ВТБ в размере 2 млрд. долларов США, который был выдан в конце июня.

На что в рекордные сроки был потрачен миллиард долларов, не сообщается.

### У Прыдняпроўі

**В Могилевской области снизились почти все виды производства.**

В Могилевской области в первом полугодии текущего года производство промышленной продукции уменьшилось на 5,2% к уровню января-июня 2013 года. Снижение производства сельхозпродукции составило 2,4%, сообщили в главном статистическом управлении региона.

### У раёне

**Жыхар Бялыніч атрымаў штраф за ўхіленне ад аплаты "размытоўкі".**

30-гадовы хлопец заплаціць за сваю несумленнасць 2,25 мільёны рублёў.

Падаткавікі і праваахоўнікі правялі праверку ў дачыненні да жыхара горада Бялынічы, Магілёўскай вобласці. У адпаведнасці з ёй было выяўлена, што хлопец скарыстаўся Дэкрэтам прэзідэнта "Аб стымуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці на тэрыторыі сярэдніх, малых гарадскіх паселішчаў, сельскай мясцовасці" і ў траўні мінулага года ўвёз на тэрыторыю Беларусі дзве грузавыя машыны. Пры гэтым ён ухіліўся ад аплаты мытных плацяжоў на агульную суму 500 мільёнаў рублёў.

# ПРА ПОСПЕХІ І ДАСЯГНЕННІ

***У бліжэйшы час Бялыніцкі раён па асноўным паказчыкам сацыяльна-эканамічнага развіцця павінен увайсці ў тройку лепшых раёнаў Магілёўскай вобласці.***




Мікалай Міхайлавіч лічыць, што для выканання гэтай задачы ў нашым раёне ёсць усе неабходныя ўмовы. Для далейшага росту эканомікі Бялыніцкага раёна патрэбна толькі максімальна выкарыстоўваць яго патэнцыял у аграпрамысловым комплексе, больш актыўна прыцягваць інвестыцыі, правадзіць мадэрнізацыю вытворчасці і прымусіць даваць больш важкую аддачу малы і сярэдні бізнэс.

Як кажуць, дай Бог, каб усе гэтыя грандыёзныя планы ажыццявіліся ўжо ў бліжэйшы час. Аднак, чэсна кажучы, асабіста я ў гэтым маю вялікі сумнеў.

Магу патлумачыць шаноўным чытачам, чаму я не падзяляю аптымізм паважанага Мікалая Міхайлавіча. Як нам усім вядома, Бялыніцкі раён з'яўляецца часткай Магілёўскай вобласці, а ў гэтай самай нашай вобласці ўзровень вытворчасці прамысловай прадукцыі за першае паўгоддзе зменшыўся на 5,2%, а узровень сельскагаспадарчай прадукцыі – на 2,4% да ўзроўня першага паўгоддзя мінулага 2013 года.

А ў мінулым годзе ён таксама зменшыўся к узроўню года пазамінулага, а гэта значыць, што эканоміка Магілёўскай вобласці знаходзіцца ў стане глыбокай рэцэсіі і што пра нейкае развіццё і рост эканомікі вобласці ў бліжэйшы час наогул не можа быць ніякай размовы.

Не дэманструя ніякіх значных поспехаў і наш Бялыніцкі раён, бо за чатыры месяцы гэтага года аб'ём вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ва ўсіх катэгорыях гаспадарак раёна склаў толькі 98,3% да ўзроўню года мінулага, хоць менавіта сельская гаспадарка з'яўляецца асновай эканомікі раёна.

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БЯЛЫНІЦКІ РАЁН: СУПРАЦОЎНІКІ "БЕЛАРУСБАНКА" ІГНАРУЮЦЬ ЗАЎВАГІ ГРАМАДЗЯН

***У аграгарадках Бялыніцкага раёна не забяспечваецца выкананне зацверджаных дзяржавай сацыяльных стандартаў. Калі ж грамадзяне спрабуюць скардзіцца на невыкананне сацыяльных стандартаў, іх звароты часцяком проста ігнаруюцца.***

Так, больш за месяц таму вядомы беларускі палітык Рыгор Кастусёў, які ў летні перыяд пражывае ў бацькоўскай хаце ў аграгарадку Цяхцін, напісаў заўвагу наконт нездавальняючай працы аддзялення "Беларусбанка" у гэтым аграгарадку ў кнігу заўваг і прапаноў гэтай установы. Пісьмовага адказу на свае заўвагі спадар Кастусёў чакае да гэтага часу, хоць, згодна беларускага заканадаўства, пісьмовы адказ на заўвагу альбо прапанову, якая запісана ў кнізе заўваг і прапаноў, павінен быць дадзены ў 15-дзённы тэрмін.




"Нашы чыноўнікі распавядаюць вельмі шмат прыгожых казак пра тое, як добра жывецца ў аграгарадках вяскоўцаў, дзе забяспечваецца выкананне ўсіх сацыяльных стандартаў, - распавядае Рыгор Кастусёў. – Фактычна ж выкананне гэтых стандартаў калі і існуе, дык толькі на паперы ў справаздачах. Магу пра гэта казаць з усёй адказнасцю, бо летам я звычайна пражываю ў бацькоўскай хаце ў аграгарадку Цяхцін. У гэтым населеным пункце, дзе пастаянна пражывае больш за 900 чалавек, з пастаяннымі перабоямі працуе паштовае аддзяленне, ну а праца мясцовага аддзялення "Беларусбанка"наогул нагадвае анекдот. Гэта аддзяленне працуе то адзін, то два, то тры дні на тыдзень па некалькі гадзін, да таго ж графік яго працы пастаянна змяняецца. У аддзяленні адсутнічае банкамат, хоць працаўнікі мясцовай гаспадаркі ААТ "Новая Друць" атрымліваюць грошы за заробкі на банкаўскія карткі. Пенсіянеры не могуць своечасова атрымаць свае пенсіі, бо грошы ў аддзяленне завозяцца з Магілёва ў нявызначаны час, людзі вымушаны чакаць гадзінамі, пакуль іх падвязуць. Каб атрымаць заробкі і сацыяльныя дапамогі жыхарам Цяхціна і навакольных вёсак часцяком даводзіцца ездзіць на адлегласць больш за 20 кіламетраў у Бялынічы. Складваецца такое ўражанне, што банкаўскія чыноўнікі вяскоўцаў наогул за людзей ня лічаць.

Па просьбе аднавяскоўцоў я выказаў усе свае заўвагі на гэты конт у кнізе заўваг і прапаноў Цяхцінскага аддзялення "Беларусбанка" і папрасіў даць мне пісьмовы матываваны адказ на гэтыя заўвагі. Аднак, нягледзечы на тое, што, згодна беларускага заканадаўства, адказ мне павінны былі даслаць у пянаццацідзённы тэрмін, прайшло больш за месяц, а яго так і не атрымаў.

Гэта тым больш дзіўна, бо банкаўская чыноўніца з Бялыніч звязвалася са мной па тэлефону і распавядала пра шматлікія праблемы для дзейнасці іх установы ў вёсках, і я асабіста казаў ёй пра тое, што чакаю пісьмовага адказа, дзе яна і зможа падзяліцца ўсімі праблемамі. Чамусьці пісьмова напісаць адказ банкаўскія чыноўнікі так і не змаглі, таму я збіраюсь напісаць скаргу аб парушэннях у працы са зваротамі грамадзян у аддзяленні "Беларусбанка" у пракуратуру Бялыніцкага раёна і мясцовы райвыканкам", - кажа Рыгор Кастусёў.

Жыхары Бялыніцкага раёна адзначаюць, што за апошні год значна пагоршылася праца аддзяленняў "Беларусбанка" ва ўсіх вясковых населеных пунктах Бялыніцкага раёна, дзе яны яшчэ засталіся. Фактычна не забяспечваецца ў раёне ў сельскай мясцовасці і выкананне іншых сацыяльных стандартаў.

***Барыс Вырвіч***

## В Староселье тоже воруют

17 июля Белыничским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) по заявлению, поступившему от жительницы д. Староселье, 1965 г.р., о том, что в период с 14 по 16 июля со двора ее дома похищена мотокоса. ОУР установлено, что преступление совершил ранее неоднократно судимый по житель д. Клева, 1964 г.р. Похищенное изъято. Задержан в порядке ст. 108 УПК, информирует интернет-сайт УВД Могилёвского облисполкома.

## Анекдот дня

Он был женат уже в пятый раз, имел пятую жену и пятую тёщу, и поэтому в ведьмах разбирался лучше инквизиции.

# ПРЕСТУПЛЕНИЕ И ЧУТЬ-ЧУТЬ НАКАЗАНИЯ

**«Нельзя дать человеку власть над другими людьми, не искушая его злоупотребить этой властью. Искушение тем сильнее, чем больше у него власти, и мало кто способен устоять».**

***Закон коррупции лорда Эктона***

Коррупция считается одной из самых опасных для современного общества социальных болезней, поскольку разрушает его основные «несущие конструкции» - экономику, власть и дух народа. В Конвенции Организации Объединенных Наций против коррупции, принятой Генеральной Ассамблеей ООН 31 октября 2003 г., подчёркивается, что коррупция представляет собой угрозу для стабильности и безопасности общества, она подрывает демократические институты и ценности, этические ценности и справедливость, результате чего наносит ущерб устойчивому развитию и правопорядку. Этимологически слово «***коррупция***» в переводе с латинского языка означает порчу, упадок, подкуп, обольщение, совращение, притон.В юриспруденции под коррупцией понимается использование служащими государственного аппарата, должностными лицами государственных предприятий, учреждений, организаций своего служебного положения и связанных с ним возможностей для противоправного получения ими, их близкими, а также третьими лицами в любой форме материальных и иных благ, льгот и преимуществ, а также противоправное предоставление этим лицам благ, льгот и преимуществ.

Недавно Шклов с удивлением узнал, что всесильный Коноплев, еще недавно «руливший» Палатой Представителей всея синеокой, сейчас является рядовым ИПэшником (индивидуальным предпринимателем) со всеми вытекающим негативными последствиями оного статуса. В коих сферах экономики предпринимательствует уважаемый Владимир Николаевич широкой публике неизвестно, а вот что замашки государственного масштаба неуемной натуре экsспикера не дают покоя, иногда свидетельствует криминальная хроника.

Ситуация банальна для высших кругов белорусских госслужащих: сам чиновник или его дитя что-то со-




творили лет эдак на 10 тюремного заключения, о чем глубоко раскаиваются, но белорусская Фемида не предусматривает альтернативного наказания в виде, например, предупреждения или извинения. Тогда, как основной вариант, для исправления ситуации используются наработанные связи, запугивание потерпевших, подлог, лжесвидетельство и иной инструмент вывода преступника из-под действия Закона. Что-то похожее случилось и в судьбе В.Коноплева, когда его попросили об одолжении поучаствовать в «отмазке» сына крупного бизнесмена, по вине которого погиб человек. В этой «операции» главным решальщиком выступил заместитель генерального прокурора А.Архипов, который в коррупционном рвении за бутылку коньяка и золотой слиток в 20 г и решил судьбу преступника. В пользу, естественно, самого преступника.

**Эта история оказалась настолько громкой, что ею даже возмутился Президент А.Лукашенко:** 14 ноября 2013 г., принимая доклад генерального прокурора Александра Конюка, Александр Лукашенко заявил, что Архипов, будучи в должности заместителя генпрокурора, попытался было замять дело, связанное с гибелью человека в ДТП. Это ДТП произошло вечером 3 июня 2012 года в деревне Юхновка Минского района. 23-летний мотоциклист ехал по улице Южной, на закруглении дороги вправо он не справился с управлением, съехал в левый кювет и опрокинулся. Парень был пьян, и у него не было прав – он их вообще никогда не получал. 24-летняя пассажирка, жительница деревни Городище, которая ехала с ним без шлема, погибла на месте. Но чудесным образом уголовное дело в отношении мотоциклиста, по чьей вине погибла девушка, было прекращено.

*“Дружки там его втянули в эту аферу, человека убили, пьяный водитель. Неважно, какие у них там были отношения, но человек погиб. Представьте, как реагирует на это семья. С помощью власти это дело замяли. Что подумают люди, окружающие, семья? Подумают, что у нас власти нет? Где справедливость?”*. **Если уже и Президент вопрошает таким образом, что же тогда деется в стране?**

*(Окончание на стр. 4)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПРЕСТУПЛЕНИЕ И ЧУТЬ-ЧУТЬ НАКАЗАНИЯ

*(Оконч. Начало на стр. 3)*



***Владимир Коноплёв***

**Но справедливость восторжествовала:** виновник гибели девушки в ДТП осужден и отбывает наказание; «похоронил» карьеру следователь заместитель начальника 1-го следственного отделения Минского РОСК УСК по Минской области Константин Янушко, который вел это дело; бывший заместитель генпрокурора А.Архипов **приговорен к шести годам лишения свободы с конфискацией в колонии усиленного режима (**по ч. 3 ст. 426 “Превышение власти или служебных полномочий” и ч. 3 ст. 430 “Получение взятки” Уголовного кодекса).Он лишен звания государственного советника юстиции 3-го класса и права занимать определенные должности сроком на 5 лет.В доход государства обращено имущество Архипова - “ШкодаОктавия” 2010 года выпуска и золотой слиток (20 граммов). **Пострадал и В.Коноплев, которого белорусская Фемида оштрафовала на 900 базовых величин (135 млн. рублей)** по ч. 1 ст. 406 “Недонесение о преступлении”. Успел Коноплев побывать и под стражей – с 18 по 26 ноября прошлого года.

Владимир Коноплев и Александр Архипов знакомы достаточно давно. Их общие интересы обнаружились в гандболе. Коноплев возглавляет Белорусскую федерацию гандбола, а Архипов - входил в совет БФГ.Как мы знаем, Коноплев всегда находился рядом с Лукашенко, под его покровительством стал руководителем палаты Представителей; казалось бы, он должен быть государственным до мозга костей человеком. Поскольку Коноплев и Архипов шли по одному делу, значит, он знал о действиях заместителя генерального прокурора. Вместо того, чтобы остановить замгенпрокурора, может быть, предотвратить преступление, вместе с ним поглощал коньяк, полученный в виде взятки. Бывший сотрудник КГБ Ануфрий Романович считает, что Коноплев должен был получить не меньше Архипова. Слишком мягкий приговор В.Коноплеву, по мнению бывшего следователя прокуратуры Олега Волчека, может быть связан с тем, что тот «настучал» набывшего заместителя генпрокурора. Неадекватность наказания Коноплеву за совершенное преступление отмечает ряд специалистов.

И не удивительно - все коррупционные дела, связанные с чиновниками ранга Архипова и Коноплева, рассматриваются в закрытом порядке. От кого прячутся? Что скрывают? Эксперты не сомневаются, что, как и другие чиновники, Архипов долго не посидит. Высочайшим указом будет помилован. Однако коррупционные процессы сами по себе свидетельствуют о том, из кого состоит ближайшее окружение президента. И сможет ли он навести порядок с чиновниками районного масштаба, когда «друзья детства» за стакан коньяка вносят хаос в государственное устройство?

***Пётр Мигурский***

# МІЛІЦЫЯ ЗАТРЫМАЛА РЭДАКТАРА НЕЗАЛЕЖНАЙ ГАЗЕТЫ ЗА “ПРАВАПАРУШЭННЕ Ў БЯЛЫНІЧАХ”

***Ноччу 16 ліпеня аўтамабіль галоўнага рэдактара газеты “Наш Магілёў” Ігара Барысава быў спынены супрацоўнікамі ДАІ каля вёскі Сумарокава Магілёўскага раёна. Разам з Ігарам Барысавым у аўтамабілі знаходзіўся яшчэ адзін сябар ГА “БАЖ”, вядомы беларускі палітык Рыгор Кастусёў.***

Супрацоўнікі ДАІ паведамілі журналісту, што на яго аўтамабіль прыйшла арыенціроўка, нібы на ім здзейснена хуліганства ў Бялынічах. Пасля праверкі дакументаў і агляду аўтамабіля машына была накіраваная ў РАУС Магілёўскага раёна для далейшага разбіральніцтва.

У РАУСе Магілёўскага раёна супрацоўнікамі міліцыі быў складзены пратакол апытання Ігара Барысава і пратакол агляду аўтамабіля. Знаходзячаяся ў аўтамабілі друкаваная прадукцыя была канфіскаваная. Усяго супрацоўнікі міліцыі забралі каля 12 тысяч асобнікаў газеты “Наш Магілёў” і бюлетэня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) “Сацыял-дэмакрат”.

Па словах Ігара Барысава, супрацоўнікі міліцыі паведамілі яму, што ён яшчэ будзе выкліканы ў РАУС для складання пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні. Пасля журналіста чакае суд, дзе яму пагражае штраф у памеры ад 3 да 7,5 мільёнаў рублёў.

Газета “Наш Магілёў” была заснаваная ў канцы 2006 года. За часы свайго існавання было выдадзена 74 нумары выдання, на рэгулярнай аснове працуе сайт gazetanm.eu.




Канфіскаваны нумар газеты быў прысвечаны інфармацыйнай кампаніі “Захаваем стары Магілёў”, якую зараз праводзіць незалежнае выданне.

***Іван Барысаў***

# ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ КАЛГАСАЎ НЕАБХОДНАЯ, АЛЕ ЦАНА ЯЕ БУДЗЕ ВЕЛІЗАРНАЙ

***На калгасы Беларусь траціць больш грошай, чым на армію, міліцыю, ахову здароўя і адукацыю. І 60% зь іх застаюцца стратнымі.***

Неэфэктыўныя сельгаспрадпрыемствы будуць прыватызаваныя – пра гэта заявіў Аляксандар Лукашэнка падчас сустрэчы з кіраўніком працоўнай групы па фінансавым забесьпячэньні аграрнай рэформы. Кіраўнік дзяржавы даў старшыням стратных калгасаў паўгоду на выпраўленьне. У адваротным выпадку іх прадпрыемствы будуць прададзеныя. Аляксандар Лукашэнка ў чарговы раз палохае чыноўнікаў ці ён сур'ёзна намераны пачаць працэс прыватызацыі? Пра гэта мы разважаем зь беларускімі эканамістамі.




У гэтым годзе беларуская дзяржава намераная выдаткаваць з бюджэту на сельскую гаспадарку 750 мільёнаў даляраў – гэта больш, чым ідзе на ўтрыманьне арміі ці міліцыі і больш, чым выдаецца на ахову здароўя ды адукацыю. На мінулагодніх "Дажынках" кіраўнік Беларусі прызнаўся, што штогод краіна ўкладае ў сельскую гаспадарку каля 2 мільярдаў даляраў. Пры гэтым, паводле дадзеных за першы квартал 2014 года, 60% сельскагаспадарчых прадпрыемстваў не былі ў стане прыжыць без дзяржаўных датацыяў. А страты кожнага шостага прадпрыемства з гэтай групы перавышалі нават аб'ёмы дзяржпадтрымкі.

У дзяржавы няма сродкаў, каб утрымліваць такую стратную сельскую гаспадарку. Таму ўлады сапраўды задумаліся пра прыватызацыю аграрных прадпрыемстваў – лічыць эканаміст Пётр Мігурскі, які сам быў некалі старшынём калгасу.

П. Мігурскі: Занадта цяжкі гэты камень на шыі ў народа й дзяржаўнага бюджэту. Доля сельскай гаспадаркі ў бюджэтных выдатках не адпавядае значэньню сельскай гаспадаркі ў жыцьці грамадзтва. таму нешта трэба рабіць. У рэшце рэшт, прыватызацыя сельскагаспадарчых прадпрыемстваў адыграе пазытыўную ролю. На фэрмэраў ніхто не зьвяртае ўвагі. У 2013 годзе на адзін гектар сельскагаспадарчых земляў калгасам было выдадзена 110 даляраў субсыдыяў. А фэрмэрам выдзелілі толькі 28 даляраў. Тым ня менш, фэрмэры жывуць! І езьдзяць далёка не на канях, а на "Мэрсэдэсах".

Аднак пераводу калгаснай сельскай гаспадаркі на рынкавыя рэйкі перашкаджае цэлы шэраг нявырашаных праблемаў. Адна зь іх – гэта адсутнасьць прыватнай уласнасьці на зямлю, кажа Пётр Мігурскі.

П. Мігурскі: Для таго, каб прыватызацыя была паўнавартаснай, трэба ўвесьці прыватную ўласнасьць на зямлю. Хоць, зразумела, для нашай улады ўсё роўна, якая ўласнасьць – яна можа экспрапрыяваць яе ў любы момант. Аднак для надзейнасьці бізнэсу патрэбна ўвесьці паняцьце прыватнай ўласнасьці на зямлю для фізычных і юрыдычных асобаў, якія гэтую зямлю апрацоўваюць.

Другая праблема – гэта высокая запазычанасьць гаспадарак. Ніхто ня купіць калгас, даўгі якога перавышаюць вартасьць яго маёмасьці.

П. Мігурскі: Крэдыторская запазычанасьць сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у 1,7 разу перавышае іх грашовую выручку. Вярнуць гэтыя пазыкі нерэальна. Так што рацыянальна прыватызаваць стратныя прадпрыемствы па цане 1 базавай велічыні.

Нарэшце, прыватызацыя калгасаў можа нэгатыўна адбіцца на саміх аграрыях – кажа Пётр Мігурскі. Трэба вырашыць, як прыстасаваць вялікія калгасы, малочныя комплексы ды сьвінафэрмы да працы ў рынкавых умовах. Іначай аб'ёмы вытворчасьці малака й мяса рэзка ўпадуць, а тэхналягічны ўзровень калгасаў дэградуе.

П. Мігурскі: Праблема буйных комплексаў гэта, напэўна, праблема нумар адзін пры правядзеньні прыватызацыйных працэсаў. Трэба знайсьці, як іх адаптаваць да рынкавай эканомікі. Для прыкладу: на адну карову патрэбны гектар зямлі. Пажадана, каб гэта была ворыўная зямля. Таму эфэктыўны комплекс на дзьве тысячы галоваў павінен мець дзьве тысячы гектараў зямлі. Важна захаваць спэцыялізацыю, але пры гэтым захаваць тэхнічны ўзровень, каб ён паступова не стаў прымітыўным.

Вялікія калгасы прыстасаваць да працы ў рынкавых умовах немагчыма – апануе Пятру Мігурскаму эканаміст Міхаіл Залескі, у мінулым адзін са стваральнікаў Беларускага сялянскага саюзу. Гаспадаркі трэба зрабіць меншымі – лічыць экспэрт.

М. Залескі: Улада ў асобе Лукашэнкі ня ведае ў

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЭМПІЯНАТ КРЫМА ПА ХАКЕІ. *АПАВЯДАННЕ-МАРА**

Чакаю Другога Крымскага Рэферэндуму! Хутчэй бы! Усё, вядома ж, звязана з нашым Чэмпіянатам свету па хакеі. Нечакана? Але калі разабрацца, то ў агульнафіласофскім сэнсе ўсё на тым самым свеце паміж сабой мае трывалыя сувязі. Так вось і тут – дзе той чэмпіянат, дзе той свет, а дзе другі крымскі рэферэндум? Але гэта толькі на першы погляд.

Справа ў тым, што пачалося ўсё са сцягоў. Падчас чэмпіянату то там,то тут – у кавярнях, на вуліцах, у крамах, у гатэлях – раптам з'явіліся спартовага выгляду маладыя людзі, загорнутыя ў расейскія сцягі, як у плашчы.

Мне вельмі падабалася, як яны выглядалі. Я проста пачаў трызніць, каб выглядаць так жа сама. Аднойчы ўвечары, пад'ехаўшы да "Шкло-арэны", я набраўся смеласці і ў адной кампаніі людзей у сцягах спытаўся, дзе я мог бы набыць такі самы. "Чёчё?!" – здзівіліся каржакаватыя браткі, адразу агрэсіўна паставіўшыся да мяне. Я растлумачыў як мага дакладней. Тады адзін з іх – самы малады і самы п'яненькі – зняў свой сцяг і працягнуў мне. "Што Вы, не трэба!" – засмуціўся я. Але больш не з-за таго, што мне было няёмка браць сцяг, а з-за таго, што занадта ён быў забруджаны, дакладней, абванітаваны. "Ну так я не пол – ік – чё ты хошь тогда?" – прамармытаў чалавек у забляваным сцягу. "Ізвініцэ…" – прабляяў я і рэтыраваўся.

Другая спроба ўвогуле атрымалася кепскай. Я дачакаўся заканчэння матча, на якім было вельмі шмат людзей у бела-сіне-чырвоных сцягах (дарэчы, яны і складалі асноўную публіку нашага чэмпіянату), і пасунуўся насустрач адной кампаніі. Калі пачаў тлумачыць, што я ад іх хачу, то ўжо гэтыя, іншыя браткі, спыталіся: " А ты из каков-та регион-та будешь?". "Ды не, я не з рэгіёну, я тутэйшы" – па-простаму адказаў я. "Какой, какой?!" – набычыліся браткі. "Ну, местный, значит" – паправіўся я. "Ты балакать-то научись человеческим языком! Тутэйший! Га-га-га!"

"Ды вы не хвалюйцеся, я, калі што , купіць магу!" – торгнуў мяне чорт за язык. Браткі пераглянуліся і абступілі мяне шчыльнай сцяной. Той, што адказваў на самым пачатку, скрозь зубы працадзіў: "Этот флаг не продаётся! Ты видишь красную полосу? Это кровь наших дедов!» — і таксама ж лаканічна, як казаў, імгненна заехаў мне кулаком у твар. У мяне з вачэй пасыпаліся іскры, але я хутка ачомаўся і пачаў тлумачыць: "Дык і маіх жа дзядоў тут ёсць кроў!". "Пошёл на х… отсюда, колхозник грёбаный! Сиди тут в своей Бульбондии и не рыпайся…!"

Але ж я на іх не пакрыўдзіўся. Стаяў і глядзеў услед, як зачараваны. І нават крыху ганарыўся, таму што на белым кавалку палотнішча, якім быў абгорнуты адзін з браткоў, засталіся цяпер і мае кропелькі крыві. Акурат , калі ў мяне з носу пырснула юшка, кроў мая і патрапіла на той сцяг.

Я зразумеў, што падыходзіць да гэтых гордых людзей у сцягах больш не варта. Ішоў і думаў сабе, уяўляў розныя цікавыя, як мне падавалася, моманты. Вось, напрыклад, што ў Маскве, адкуль большасць з іх прыехала, былой сталіцы СССР (а цяпер інтэрнацыянальным мегаполісе, які працягваў выконваць тую ж функцыю – аб'ядноўваць народы), усе прадстаўнікі брацкіх краінаў – Таджыкістана, Узбекістана, Латвіі, Літвы, Грузіі, Украіны – ходзяць, абгорнутыя ў свае нацыянальныя сцягі. Эх, прыгажосць! – уяўляў я сабе ідэальную карціну.

Я змяніў маршрут і вырашыў тэрмінова заехаць дадому. Хуценька заскочыў у кватэру. Думкі мае нарэшце змацаваліся ланцужком ідэальнай логікі. Усё геніяльнае – проста! Бязгучна праслізнуў на гаўбец. Там, паміж старых рэчаў – я ведаў дакладна – павінен быць сапраўдны рарытэт: стары сцяг Беларускай ССР, з якім тата хадзіў на дэманстрацыіі яшчэ за савецкім часам.

Ёсць! Я разгарнуў палотнішча, абтрос павуцінне і рэшткі тканіны, што пагрызлі мышы. Крыху выцвілы і пакамячаны – ацаніў я. Але ж у цэлым усё прыстойна! Выслізнуўшы на лесвічную пляцоўку, я загарнуўся ў сцяг




і рушыў у бок праспекта, назву якога мінчукі цяпер агучвалі як "Пабедзіцелеймашэрава". Чамусьці так апошнім часам усе называлі гэты праспект. Напэўна, таму, што раней дадзены тапонім вызначаўся як "праспект Машэрава", а зараз як "праспект Пабедзіцелей". Вось і ўшанавалі памяць аб выбітным чалавеку, спалучыўшы з сучаснай назвай.

Я, горда ўзняўшы галаву, шпацыраваў па праспекце. Усім мінакам, пэўна, падабалася мая ідэя. Людзі паварочвалі галовы, назіралі за мной здалёк — хто пэўна, хто незаўважна глядзелі ўслед. Я адчуваў сябе героем сваёй краіны.

У сваіх думках я і не заўважыў, як побач са мной раптам з'явіліся дзве постаці ў чорных касцюмах, белых кашулях і аднолькавых гальштуках. Яны тыцнулі нейкія корачкі прама ў вочы, і адзін з іх, ніжэйшы па росце, рэзка прамовіў: "Майор Прохоров. Почему государственный флаг используете не по назначению?"

Я разгубіўся, не зусім зразумеў пытанне і пачаў нешта такое адказваць: "Дык я ж, гэта… на чэмпіянаце… ну, у сэнсе, балею за нашых… "

"Флаг дай сюда", – паспрабаваў другі чалавек у чорным сцягнуць мой

*(Заканчэнне на стар. 7)*

## ЧЭМПІЯНАТ КРЫМА ПА ХАКЕІ. *АПАВЯДАННЕ-МАРА**

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

дарагі сімвал з плячэй. “Не магу… Гэта татаў…” – неяк недарэчна ўчапіўся я ў сцяг. Чалавек адпусціў мяне, таму што побач сталі збірацца людзі. Наша кампанія пэўна прыцягвала ўвагу. “Товарищи, проходите! Не скапливайтесь!” – адпрацаванымі рухамі маёр Прохараў развярнуў пару мінакоў і элегантнымі жэстам прапанаваў ім сыходзіць. Яго калега дастаў рацыю і нягучна сказаў некалькі словаў. Як з-пад зямлі намаляваліся людзі ў міліцэйскай форме. Я нават і азірнуцца не паспеў, як сядзеў ужо ў невядомым мне памяшканні перад следчым, які складаў пратакол па артыкуле “Абраза дзяржаўных сімвалаў”.

Я зусім не пакрыўдзіўся, што ўвесь чэмпіянат правёў у камеры. Шмат карыснага вынес я адтуль. Напрыклад, пазнаёміўся з многімі добрымі людзьмі, што апынуліся ў маёй кампаніі на кароткі ці даўжэйшы час. А ў нейкі момант я стаў нават мясцовым “аўтарытэтам”, таму што сядзеў тут па часе болей, чым хто. А калі заставаўся ў камеры адзін, то зразумеў, што магу чытаць руны. Так! У дальнім куце камеры сцены былі ўпрыгожаны рунічнымі надпісамі. Я падумаў – няўжо тут адбывалі свой тэрмін сапраўдныя вікінгі?

І мае здагадкі спраўдзіліся! Аднойчы ноччу ў камеру занеслі чалавека ў шлеме з рагамі. Чамусьці ён быў загорнуты ў расейскі трыкалор. Быў ён у беспрытомным стане, я вельмі хваляваўся за яго здароўе. Да позняй ночы я спрабаваў з ім пагаварыць, але толькі пад раніцу ён пачаў стагнаць і адказваць мне на нейкай дзіўнай мове. Калі яго ў хуткім часе забіралі, то ахоўнікі сказалі, што гэта фінскі балельшчык, які пасля матчу піў з рускімі. Больш я ніколі яго не бачыў — чалавека з рагамі адпусцілі на свабоду.

Вось і я мару, хутчэй бы ўжо наступіла гэтая свабода. Калі і я змагу загарнуцца ў прыгожы сцяг. Калі нарэшце абвесцяць Другі Крымскі Рэферэндум, і Беларусь большасцю галасоў далучаць … а няхай сабе і да Крыму! Мы і там пабудуем лядовыя палацы і правядзём свой чэмпіянат! Чэмпіянат крымскіх беларусаў – гэта гучыць горда!

***Дзядзька Рыгор (Бураўкін)***

***Заўвага рэдактара:**

*Фактычна жанр твора – палітычная сатыра, можна было б пазначыць: “сатыра; або гумарэска, бо малая жанравая форма”. Але аўтар бярэ на сябе адказнасць пакінуць сваё “неправільнае” вызначэнне жанра, як частку назвы.*

## У ВЯСКОВЫМ МУЗЕІ РАСПАВЯДУЦЬ ПРА АХВЯР ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ

У аграгарадку Вішоў Бялыніцкага раёна 12 чэрвеня адбылося ўрачыстае адкрыццё музея гісторыі мясцовай гаспадаркі – СВК “Калгас “Радзіма”.

Гэта першы і пакуль адзіны ў Беларусі музей, прысвечаны гісторыі сельгаспрадпрыемства. Музей гісторыі СВК “Калгас “Радзіма” размясціўся ў будынку школы і складаецца з пяці залаў, экспазіцыі якіх дэманструюць каля пяці тысяч цікавых экспанатаў.

У шэрагу іншых у музеі створана адмысловая экспазіцыя, у якой распавядаецца пра ахвяраў палітычных рэпрэсій з ліку жыхароў Вішоўскага сельсавета і працаўнікоў існаваўшых на яго тэрыторыі гаспадарак. На адмысловым стэндзе пералічаны прозвішчы ўраджэнцаў сельсавета, якія сталі ахвярамі рэпрэсій у 30-я гады мінулага стагоддзя, якія ўдалося высветліць.

Ініцыятарам стварэння музея гісторыі СВК “Калгас “Радзіма” быў шматгадовы старшыня праўлення кааператыва, вядомы ў нашай краіне спецыяліст у галіне сельскай гаспадаркі Аляксандр Лапацентаў.

СВК “Калгас “Радзіма” з’яўляецца адным з лепшых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у Магілёўскай вобласці.

***Барыс Вырвіч***

## СУДЬЯ ИЗ ШКЛОВСКОГО РАЙОНА “ОТВЕТИЛ” ЗА НИКОЛАЯ СТАТКЕВИЧА



**Судья суда Шкловского района (Могилевская область) Виталий Волков внесен в список лиц, которым запрещен въезд на территорию Евросоюза.**

Это решение Совета ЕС опубликовано 9 июля в Официальном журнале Евросоюза.

Волков внесен в список в связи с тем, что в январе 2012 года принял решение о переводе экс-кандидата в президенты Беларуси, оппозиционного активиста Николая Статкевича в тюрьму закрытого типа Могилева на основании того, что Статкевич якобы нарушал правила заключения в исправительной колонии № 17 в Шклове, - передаёт БелаПАН.

В сообщении говорится, что данное решение привело к нарушению прав Статкевича, в том числе лишению сна и угрозе здоровью.

***Мария Конопка***

## БАНДИТ ИЗ ЛЕБЕДЯНКИ

14 июля Белыничским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 147 ч. 1 УК (Умышленное причинение тяжких телесных повреждений) в отношении жителя деревни Лебедянка Белыничского района, 1980 года рождения, который 14 июня на улице в деревне Рудня указанного района, в ссоре, избил неработающего местного жителя, 1989 года рождения, причинив ему тяжкие телесные повреждения. Раскрыто СОГ. Задержан в порядке ст. 108 УПК, сообщает uvd.mogilev.by.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ КАЛГАСАЎ НЕАБХОДНАЯ, АЛЕ ЦАНА ЯЕ БУДЗЕ ВЕЛІЗАРНАЙ

*(Заканч. Пач. на стар. 5)*

сельскагаспадарчай галіне нічога, што выходзіць за рамкі сталінскай сельскагаспадарчай энцыкляпэдыі. Яна працягвае займацца індустрыялізацыяй сельскай гаспадаркі. У гэты самы час уся Эўропа займаецца каапэрацыяй і аграпрамысловай інтэграцыяй. А індустрыялізацыя ў Эўропе стаіць на трэцім месцы – як вынік першых двух працэсаў.

У Беларусі ж наадварот – ідзе цэнтралізацыя аграпрадпрыемстваў. Памер гаспадарак ужо ў 100 разоў большы, чым ў Эўропе! А Лукашэнка хоча, каб стандартная гаспадарка была ажно 22 тысячы гектараў! Відавочна, што яна будзе стратнай. І відавочна, што той памер датацыяў, які дае беларуская дзяржава, недастатковы, каб забясьпечыць эфэктыўную працу гэтых прадпрыемстваў.




Прыватызацыя сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, праведзеная менскімі чыноўнікамі, наўрад ці будзе справядлівай - папярэджвае Міхаіл Залескі. У выніку яе ў Беларусі могуць зьявіцца велізарныя лятыфундыі з бяспраўным вясковым насельніцтвам.

М. Залескі: У майго бацькі была зямля. Камуністы гэтую зямлю адабралі, і ні капейкі за яе не далі. Цяпер, атрымліваецца, мне й такім, як я, трэба яе зноў купляць? Дык дзе тут справядлівасьць, і дзе тут праўда? Працаўнікі калгасаў, якія, як рабы ці ваеннапалонныя, ішачаць на зямлі, таксама нічога ад гэтай прыватызацыі не атрымаюць.

І пры гэтым ніхто не спрабуе ісьці зьнізу – запытацца, як рэформу бачаць людзі. На вёсцы 130 тысячаў людзей з вышэйшай адукацыяй. У іх хто-небудзь спытаўся? Усе пляны распрацоўваюцца толькі на вуліцы Карла Маркса ў Менску. Таму й вынікі такія. У выніку іх прыватызацыі ў нас паўстане такі капіталізм, як у Бразыліі. Зьявяцца лятыфундыі, якімі будуць валодаць сям'я Лукашэнкі ды яго чыноўнікі.

Раней ці пазьней беларускія ўлады пачнуць прыватызаваць калгасы – перакананыя экспэрты. Аднак як сам працэс прыватызацыі, так і яе вынікі могуць быць далёкая ад ідэалаў справядлівасьці ці рынкавай эфэктыўнасьці. Вясковае насельніцтва апынецца за бортам рэформаў. А ўлады, лічыць Пётр Мігурскі, змогуць ускласьці віну на прыхільнікаў рынкавай эканомікі: маўляў, вы хацелі рынку вы яго атрымалі.

***Аляксандар Папко, radyjo.net***

## ПРА ПОСПЕХІ І ДАСЯГНЕННІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

У раёне дзейнічаюць сем сельскагаспадарчых прадпрыемстваў (а хутка, пасля далучэння СВК "Лебедзянка"да ААТ "Бялыніцкаерай агратэхзабеспячэнне" іх застанецца шэсць) і з іх толькі СВК "Калгас "Радзіма" можа пахваліцца нейкімі добрымі эканамічнымі паказчыкамі. Іншыя нават не зарабляюць грошай на забеспячэнне свайго існавання і аплаты па шматлікім набраным крэдытам.

Няма ніякіх значных дасягненняў у раёне і ў галіне прамысловасці, нейкі добры рост дэманструе хіба толькі ААТ "Бялыніцкі пратэінавы завод", аднак колькі гадоў ён яшчэ будзе проста "адбіваць" грошы, якія былі ўкладзеныя ў яго мадэрнізацыю?

Пра тое, што вельмі значна знізілася колькасць замоў на будаўніцтва для існуючых у нашыі раёне будаўнічых арганізацый, бялынічане таксама вельмі добра ведаюць, бо ў абодвух ПМК працуе вельмі шмат іх знаёмых. З прыняццем новых абмежаванняў вельмі значна ўскладнілася і праца бялыніцкіх прадпрымальнікаў у галіне гандлю.

Прабачце, калі ласка, дык дзякуючы чаму тады ўсё ж будзе дэманстраваць стабільны рост эканоміка Бялыніцкага раёна? Ужо зараз у раёне нейкім ростам заробкаў могуць пахваліцца хіба што толькі прадстаўнікі бюджэтнай сферы, аднак якраз яны да росту эканамічных паказчыкаў маюць вельмі абмежаваныя адносіны.

***Сяргей Семяновіч***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 20.07. 2014 г. у 09-00.